Праваабарончы
# веснік
сакавік 2011
Магілёўскі праваабарончы інфармацыйны бюлетэнь

# Такога маштабу рэпрэсіяў у краіне не было ніколі

*У сакавіку у Менску працягваліся судовыя працэсы па крымінальнай справе, узбуджанай уладамі пасля падзеяў 19 снежня 2010 года. Пад ціскам Расіі двум грамадзянам РФ былі вынесены буйныя штрафы, а грамадзянін Беларусі пакараны не пазбаўленнем волі, а толькі яе абмежаваннем без накіравання ва ўстанову адкрытага тыпу – так званай "хатняй хіміяй". Але ці сведчыць гэта пра паляпшэнне сітуацыі, якая склалася пасля 19 снежня мінулага году? На гэтую тэму мы размаўляем з віцэ-прэзідэнт Міжнароднай федэрацыі па правах чалавека, кіраўнік Праваабарончага цэнтру "Вясна", адзін з каардынатараў грамадзянскай ініцыятывы "Праваабаронцы за свабодныя выбары"* ***Алесь Бяляцкі*.**


Фота: prava-by.info

Алесь Бяляцкі

***Безумоўна, 19 снежня пачаўся новы этап у сучаснай гісторыі нашай краіны. Якія яго наступствы для беларускай грамадзянскай супольнасці?***

Падчас выбарчай кампаніі мы, праваабаронцы, бачылі сваю ролю ў арганізацыі назірання за прэзідэнцкімі выбарамі. Мы пацвердзілі нашу кааліцыю з Беларускім Хельсінкскім Камітэтам, якая сфармавалася ў 2008 годзе для назірання за парламенцкімі выбарамі. Наша задача была простай: прасачыць за тым, наколькі выбарчы працэс адпавядае беларускаму заканадаўству і стандартам АБСЕ. Сваю задачу мы выканалі. А вось палітыкі, якія ішлі на прэзідэнцкія выбары, на маю думку, не ставілі для сябе сур'ёзных задач. Я з'яўляюся паслядоўным прыхільнікам аб'яднання дэмакратычных сіл і лічу, што слабая, разрозненая палітычная апазіцыя ня можа дасягнуць колькі-небудзь значных мэтаў.

Але што цікава – выбарчы махавік мабілізаваў людзей. Аналізуючы інфармацыю пра людзей, якія выйшлі на плошчу 19 снежня, можна прыйсці да высновы, што яны зрабілі гэта не столькі ў падтрымку таго ці іншага кандыдата, колькі пратэстуючы супраць Лукашэнкі і патрабуючы дэмакратыі і свабоды. Пратэстнай акцыі такога маштабу мала хто чакаў. Але, нягледзячы на перадвыбарную блытаніну і пагрозы жорсткага падаўлення пратэстаў, якія агучваліся прадстаўнікамі ўлады напярэдадні выбараў, людзі выйшлі на плошчу. Гэта ў чарговы раз паказала, што дэмакратычна арыентаваная частка грамадства ў Беларусі дастаткова вялікая, стабільная і прадстаўлена лепшымі людзьмі.

Такі жорсткі разгон мітынгу стаў для нас яшчэ адной нечаканасцю. Я быў на акцыі і магу сведчыць: калі б ва ўладаў было хаця б мінімальнае жаданне забяспечыць яе мірны зыход – зрабіць гэта ім ня склала б цяжкасцяў. Невядома, хто ініцыяваў біццё шкла ў вокнах і дзвярах Дома Урада, але нават гэтыя дзеянні, на маю думку, ня цягнуць за сабой крымінальную адказнасць.

Акцыя, тым ня менш, была жорстка падаўлена, больш за семсот чалавек былі асуджаныя ў адміністрацыйным парадку: аштрафаваныя ці адбывалі суткі. Але маштабная кампанія рэпрэсіяў толькі набрала абароты, яна працягваецца і па гэты дзень. Толькі наша арганізацыя зафіксавала каля дзвюх сотняўператрусаў і яшчэ больш допытаў, праведзеных у краіне (хоць мы маем далёка не поўныя звесткі). Колькасць абвінавачаных і падазраваных па крымінальнай справе аб масавых беспарадках перавaліла за 50 чалавек, сямёра з іх ужо асуджаны. Гэта беспрэцэдэнтная сітуацыя. Такога маштабу рэпрэсіяў у краіне не было ніколі.

Працягваецца пераслед палітычных і грамадскіх актывістаў. Гэтая хваля ціску ўжо не звязана з тым, што адбывалася перад выбарамі і падчас выбараў - улады проста выкарыстоўваюць узбуджаную крымінальную справу для таго, каб расправіцца з палітычнымі актывістамі, праваабаронцамі і журналістамі, пасеяць страх у грамадстве. Я перакананы, што гэта не атрымаецца, паколькі значная частка беларускага грамадства арыентаваная на дэмакратычныя каштоўнасці, пратэстны патэнцыял высокі і загнаць яго ў падполле магчыма толькі на кароткі час.

***Непрапарцыйна жорсткая рэакцыя беларускіх уладаў на акцыі пратэсту выглядала вельмі нелагічна на фоне дастаткова паспяховага перамоўнага працэсу з Еўрапейскім Саюзам. Чаму гэта адбылося?***

На фоне таго, як Лукашэнка вёў сябе ўсе гэтыя 16 гадоў, усё вельмі нават лагічна. Калі параўноўваць рэакцыю на акцыі пратэсту, напрыклад, у 1996 і 2006 гадах, можна пераканацца, што ў снежні 2010 не адбылося нічога незвычайнага. За ўвесь час прэзідэнцтва Лукашэнкі я ня памятаю перыяду, калі ў краіне не было б палітычных зняволеных. Іх колькасць у розныя часы змянялася, але заўсёды хто-небудзь падвяргаўся праследу. Мы можам сведчыць аб гэтым, як арганізацыя, якая з 1998 году вядзе хроніку парушэнняў правоў чалавека ў рэспубліцы. Штогод ад тысячы да 3-х тысяч чалавек у краіне падвяргаліся рознага роду рэпрэсіям - ад праследу КДБ да звальнення з працы за палітычную ці грамадскую актыўнасць. З 1996 году грамадзянская супольнасць стала знаходзіцца пад прэсінгам уладаў. І як раз «перамір'е» апошніх паўтары гады – гэта і ёсць выключэнне з правілаў.

*Працяг на стар. 2*

# Былы кандыдат у прэзідэнты атрымаў палітычны прытулак

Алесь Міхалевіч, кандыдат у прэзідэнты Беларусі на мінулых выбарах, атрымаў палітычны прытулак у Чэхіі.

А.Міхалевіч з'яўляецца абвінавачваным па крымінальнай справе аб масавых беспарадках у Мінску 19 снежня 2010 года (арт. 293 КК). Ён быў затрыманы ў ноч на 20 снежня.

19 лютага палітыка адпусцілі пад падпіску аб нявыездзе са следчага ізалятара КДБ, а 28 лютага Міхалевіч заявіў, што быў вызвалены пасля дачы згоды стаць агентам КДБ. Ён сказаў, што вымушаны быў пайсці на такі крок «з-за жудасных умоў утрымання ў СІЗА, якія можна расцаніць як катаванні». У той жа дзень у тэлефоннай размове чэшскі міністр замежных спраў Карэл Шварцэнберг выказаў Міхалевічу падтрымку і пацікавіўся, чым беларускім зняволеным можа дапамагчы Еўрасаюз. У адказ беларускі палітык прапанаваў, каб пытанне аб катаваннях было ўзнята ўпаўнаважаным ААН па правах чалавека і каб міжнародныя структуры дабіваліся доступу да беларускіх палітзняволеных.

Паведамленне аб знаходжанні Міхалевіча «не ў зоне дасягальнасці беларускага КДБ» з'явілася ў яго блогу 14 сакавіка. «Для мяне існуе адзіная прычына, якая апраўдвае такія мае крокі, — гэта рэальная фізічная пагроза, — пісаў Міхалевіч. — Усе бачаць, што гэтыя людзі гатовы пайсці на ўсё, у іх дзеяннях няма законнасці і адкрытасці».

18 сакавіка прэс-служба чэшскага МЗС паведаміла БелаПАН, што Міхалевіч знаходзіцца на тэрыторыі Чэхіі.

*Паводле БелаПАН*


Фота: svaboda.org (RFE/RL)

*Алесь Міхалевіч распавёў пра катаванні ў турме КДБ*

# Міхалевіч пра катаванні

Спосабы здзекаў. «Амерыканка»:

1. 10 студзеня «ахоўнікі ахоўнікаў» — людзі ў чорных масках без апазнавальных знакаў - вывалаклі з камеры, сілай пачапілі кайданкі ззаду, паднялі іх так, каб апусціць тварам да бетоннай падлогі. Спусцілі па вінтавой лесвіцы ў падвальнае памяшканне. Сказалі, выварочваючы рукі за спіной максімальна высока ўверх, пакуль не пачалі хрусцець суставы, што я павінен выконваць усё, што ад мяне патрабуюць.

Трымалі рукі падвешанымі за кайданкі доўга і падымалі вышэй і вышэй, пакуль не сказаў, што буду выконваць усё. Супрацоўнікаў ізалятара пры гэтым не было нават на калідорах.

2. Сістэматычна — па 5–6 разоў на суткі — выводзілі «на обыск» — на асабісты дагляд. Падчас гэтага ставілі голымі «на расцяжку», падсякаючы ногі амаль да поўнага шпагата. Калі падсякалі ногі, адчувалася, як ірвуцца звязкі. Ставілі голымі на адлегласці каля метра ад сцяны, прымушаючы абаперці рукі на сцяну, у памяшканні, дзе тэмпература не перавышала 10 градусаў. Трымалі так па 40 хвілін, пакуль не ацякалі рукі. Некалькі разоў патрабавалі, каб рукі клаў на сцяну далонямі навонкі і так стаяў.

*Працяг на стар. 2*

# Супрацоўнік міліцыі падрабіў пратакол

Сямнаццацігадовая Ганна разам са сваёй маці Наталляй Шкадун была ў ліку 9-ці ўдзельнікаў пікету салідарнасці з палітычнымі зняволенымі, што адбыўся 16 студзеня ў Магілёве. Цягам 30-ці хвілін удзельнікі акцыі трымалі ў руках партрэты палітыкаў, кінутых за краты 19 снежня. За пікетаваннем пільна сачылі супрацоўнікі міліцыі, якія, аднак, не спрабавалі яго перапыніць.

Пазней за ўдзел у гэтым «несанкцыянаваным мерапрыемстве» былі пакараныя: Валянцін Лабачоў - сямю суткамі арышту, Сяргей Нягацін - пяцьцю суткамі арышту, Максім Анцыповіч - штрафам у 525 тыс. рублёў, Наталля Шкадун - папярэджаннем.

Студэнтку першага курса Магілёўскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя А.Куляшова Ганну Шкадун 2 сакавіка апытаў інспектар па справах непаўнагадовых Ленінскага РАУС г. Магілёва Уладзімір Радзевіч. Пры апытанні, якое доўжылася каля 2-х гадзінаў, прысутнічала маці Ганны. Наталля Шкадун адзначае, што інспектар 2 сакавіка заявіў, што яшчэ ня ведае, ці будзе складаць на Ганну пратакол аб адміністрацыйным правапарушэнні.

Аднак ужо 15 сакавіка Н.Шкадун па пошце атрымала гэты пратакол. У дакуменце, датаваным 2 сакавіка, у графах «З правамі і абавязкамі асобы, у адносінах якой вядзецца адміністрацыйны працэс, азнаёмлена», «З пратаколам азнаёмлена», «Копію пратаколу атрымала» інспектар Радзевіч пазначыў «Ад подпісу адмовілася».



Фота: svaboda, org (RFE/RL)

*Ганна Шкадун*

Праваабаронца Барыс Бухель адзначае, што інспектар Радзевіч парушыў закон: «Пісаць так пратаколы нельга – гэта падробка, якая будзе абскарджана намі ў абавязковым парадку. Вельмі проста даказаць, што пратакол складаўся не ў тым месцы, не ў той час і не з тымі сведкамі. Сёння гэты пратакол ужо несапраўдны, бо 15 сакавіка скончыўся двухмесячны тэрмін, у які можна было прыцягнуць да адміністрацыйнай адказнасці. Гэты інспектар альбо не ведае заканадаўства, альбо хацеў нейкім чынам выслужыцца».

Пратакол быў таксама дасланы і у МДУ імя А.Куляшова, дзе вучыцца Г.Шкадун, а прадстаўнік дэканату і куратар групы былі запрошаны на пасяджэнне камісіі па справах непаўнагадовых, якое адбылося 24 сакавіка ў памяшканні сярэдняй школы №25.

Камісія ня стала разглядаць пратакол на Ганну Шкадун па прычыне таго, што быў прапушчаны двухмесячны тэрмін з дня здзяйснення правапарушэння, цягам якога можна прыцягваць да адміністрацыйнай адказнасці. Б.Бухель мяркуе, што камісія ўвогуле не павінна была прызначаць разгляд справы Г.Шкадун, бо загадзя мела пратакол, які быў высланы з парушэннем тэрмінаў.

«Разам з маці Ганны Наталляй Шкадун, мы будзем абскарджваць рашэнне камісіі па справах непаўнагадовых у судзе, - гаворыць праваабаронца. - Мы хочам дабіцца поўнага апраўдання яе дачкі па сутнасці абвінавачання ў яе адрас, а не апраўдання яе з нагоды таго, што прайшлі тэрміны для разгляду пратакола аб адміністрацыйным правапарушэнні».

# Міхалевіч пра катаванні

*Заканчэнне. Пачатак на стар. 1*

3. Падчас так званага асабістага дагляду ўсіх выганялі ў халоднае памяшканне распранутымі дагала і прымушалі выконваць рэзкія прысяданні па некалькі дзясяткаў разоў. Вязням са слабейшым здароўем падчас гэтага рабілася кепска, але людзей у масках гэта не спыняла.

4. На ноч не выключалі дзённае святло, патрабавалі класціся тварам пад лямпу, забаранялі накрываць твар хусткай, «чтоб відеть ліцо». У выніку пачаў псавацца зрок. Загадвалі спаць, павярнуўшыся тварам да «вочка» ў дзвярах, за гэтым сачылі бесперапынна — калі ты паварочваўся ў сне, заходзілі і будзілі, прымушаючы легчы, як загадана. Фактычна гэта вылівалася ў катаванне адсутнасцю сну.

5. Фарбавалі падлогу ў камеры фарбай на ацэтоне, і патрабавалі знаходзіцца ў памяшканні, якое фактычна не праветрывалася, да поўнага высыхання фарбы. Такое ўздзеянне доўжылася болей за сорак гадзінаў запар.

6. У самых камерах тэмпература не перавышала 10 градусаў, ацяплення практычна не было. На сцяне была чорная плесня, якая разрасталася, калі зачынялі фортку.

Паведамілі, што мая камера павінна хадзіць да доктара толькі па чацвяргах (замест прапісанай у правілах магчымасці наведваць па запатрабаванні). Падчас вымярэння ціску доктар забараняў вязню глядзець на апарат, каб той, каму мераюць ціск, не бачыў паказанні. Запісваў гісторыю хваробы ў журнал, закрываючы яго паперкай. Выганялі на прагулку ў мароз усіх, нават тых, хто запісаўся да доктара, не кажучы пра тых, у каго не было цёплых рэчаў.

Не пускалі адваката, хаця вольныя памяшканні заўсёды былі — мы бачылі пустыя кабінеты па дарозе на ўласныя допыты. (Ніхто з нас не атрымаў магчымасці сустрэцца з адвакатам сам-насам. Гэта было зроблена адмыслова, каб пазбавіць магчымасці распавесці пра катаванні).

З камер забралі «Правілы ўнутранага распарадку», бо адміністрацыя парушала гэты дакумент у дзясятках пунктах. «Людзі ў масках» папярэдзілі, што ў выпадку скаргаў ізноў «падвесяць за кайданкі» У перыяд актыўнага ціску мяне выводзілі на так званы вобшук па 8 разоў за дзень.

Грамадзянін Афганістана, які сядзеў у адной камеры са мной і меў досвед знаходжання ў палоне ў талібаў, сказаў, што там няма такой мадэрнізацыі (паказваючы на пасцель і нары), але абыходзяцца з людзьмі там нашмат лепш.

«Валадарка», куды мяне перавялі для таго, каб спужаць (так сказалі ахоўнікі ў масках у «амерыканцы»):

У пракуранай камеры на 8 спальных месцаў 15 чалавек. Спалі па чарзе. Калі змена спаць выпадала ўдзень, то даводзілася выбіраць паміж сном і прагулкай. Падчас вобшуку выводзілі на гадзіну ўсіх 15 чалавек у карцэр плошчай 5 квадратаў, дзе некаторыя гублялі прытомнасць. З маім з'яўленнем такія вобшукі пачалі праводзіць кожны дзень, каб настроіць камеру супраць мяне.

# Такога маштабу рэпрэсіяў у краіне не было ніколі

*Заканчэнне. Пачатак на стар. 1*

Але калі ўважліва паглядзець на «спакойны» 2010 год, мы нават там зможам заўважыць мінікрызісы. Мы памятаем пра двух асуджаных да смяротнага пакарання і двух расстраляных вясной мінулага году. Вынесеныя і выкананыя прысуды, на маю думку, маюць палітычную падаплёку – прэзідэнт такім чынам адрэагаваў на адмову Беларусі ў статусе назіральніка пры Савеце Эўропы. Мы памятаем аб прыняцці ў 2010 годзе закону аб інтэрнэце, які яшчэ не ўжываецца, але абавязкова «стрэліць», у будучыні, як толькі ўлады разбяруцца са спосабамі яго прымянення.

Праваабаронцы ня мелі асаблівых ілюзіяў наконт палітыкі лібералізацыі, якую абвясцілі беларускія ўлады і папярэджвалі аб тым, што ніякіх структурных зменаў не адбываецца і сітуацыя ў любы момант можа вярнуцца ў звыклае рэчышча. Мы адзначалі гэта і ў альтэрнатыўным Універсальным перыядычным аглядзе (UPR), які разглядаўся на сэсіі Савету правоў чалавека ААН у Жэневе вясной 2010 году. Улада абсалютна ўпэўненая ў правільнасці сваіх крокаў. Мы перакананыя ў адваротным. Таму ў нас такая несумяшчальнасць. Самае галоўнае тое, што мы вытрымалі першы ўдар.

***За мінулыя амаль тры месяцы адбылося шмат падзеяў – што найбольш ўрэзалася ў памяць?***

Дыхнула трыццатымі. Перад выбарамі Раманчук «нападаў» на тых еўрапейскіх дэпутатаў, якія прыязджалі ў Менск, і абвінавачваў іх у тым, што сваім прыездам яны забяспечваюць легітымнасць Лукашэнкі, рабіў рэзкія заявы ў адрас апошняга. А потым, пасля чатырохгадзіннай размовы з аховай прэзідэнта, Раманчук выступіў з заявай: ён выйшаў з пакамечанай паперкай, змест якой, запінаючыся, прачытаў. Ён абгаварыў іншага кандыдата ў прэзідэнты А. Саннікава і ягоную жонку – журналістку І. Халіп і потым доўга ня мог спыніцца, спрабуючы апраўдацца. Гэтак жа было ў трыццатых, калі верныя леніньцы прызнаваліся і прасілі справядлівы суд пакараць іх самым суровым пакараннем. Усё гэта выклікала ня тое каб абурэнне, хутчэй, здзіўленне – дзе мы? Відавочна, што пальцы ў дзверы Раманчуку ніхто не заціскаў, але аказаны псіхалагічны ціск яго зламаў. А іншы кандыдат у прэзідэнты Алесь Міхалевіч, які толькі нядаўна быў вызвалены з СІЗА КДБ пад падпіску аб нявыездзе, заявіў, што да яго ўжываліся катаванні і што яго прымусілі падпісаць паперу аб супрацоўніцтве з КДБ з умовай, што толькі тады ён убачыць свабоду.

Улады, не саромеючыся, заяўляюць, што ўмовай выхаду на свабоду палітычных зняволеных з'яўляецца пакаянне. Стваецца ўражаньне, што падобнае публічнае прыніжэнне апанентаў прыносіць Лукашэнку асаблівую садысцкую асалоду.

***Што можа паўплываць на сітуацыю?***

Мы, прадстаўнікі грамадзянскай супольнасці, імкнемся дзейнічаць шляхам пераканання, логікай, фактамі – быць свайго роду фасілітатарамі паміж ахвярамі і ўладамі. У дэмакратычных краінах такая дзейнасць прыносіць вынікі. У нашай «чорна-белай» сітуацыі трэба гуляць па шахматным правілах. Па-іншаму не атрымаецца. Зараз ўладамі грамадзянскай супольнасці фактычна аб'яўлена вайна. Спадзяюся, мы выстаім ў гэтай вайне. Калі не, то краіну чакае варыянт Кубы – у турмах будуць сядзець ужо не 30, а 300 палітычных і грамадскіх актывістаў, а астатнія будуць вымушаныя сысці ў глыбокае падполле.

Нам вельмі пашанцавала з тым, што мы з'яўляемся суседзямі Еўрапейскага Саюзу, а такое становішча справаў у краіне ўяўляе небяспеку для ЕС. Тое, што адбываецца ў Беларусі, супярэчыць еўрапейскай памежнай палітыцы, мэтай якой ёсць садзейнічанне стварэнню стабільнай і прадказальнай палітычнай і эканамічнай сітуацыі ў суседніх дзяржавах. Тут гэтага няма і блізка. У адказ на фальсіфікацыю выбараў і жорсткі разгон мірнай дэманстрацыі пратэсту ЕС увёў палітычныя санкцыі ў дачыненні да беларускіх чыноўнікаў. Еўрапейскія палітыкі сцвярджаюць, што калі будуць і далей груба парушацца правы чалавека, калі ў краіне будуць палітычныя зняволеныя, вельмі магчыма ўвядзенне і некаторых эканамічных санкцыяў. Я думаю, што ЕС будзе і надалей рэагаваць адпаведным чынам. Ня думаю, што на заходнім напрамку ў беларускіх уладаў у бліжэйшыя пяць гадоў будуць нейкія поспехі. Лукашэнка сам вызначыў гэты тэрмін – да наступных выбараў.

***Ці возмецеся Вы зрабіць прагноз: як будуць развівацца падзеі?***

Я лічу, што Еўрапейскі Саюз, які будуе сваю палітыку на прынцыпах дэмакратыі і патрабуе павагі гэтых прынцыпаў ад краінаў, з якімі ён супрацоўнічае, не павінен рабіць выключэнняў для Беларусі. На маю думку, эканамічныя адносіны ЕС са сваімі суседзямі, у тым ліку і з Беларуссю, павінны адпавядаць палітычным.

Зараз у краіне душаць грамадзянскую супольнасць. Ведома, метады іншыя, чым гэта было ў трыццатых гадах. Але атмасфера вельмі нагадвае тыя часы – людзей ламаюць за адну ноч, вымушаюць рабіць публічныя прызнанні і пасыпаць галаву попелам. Фармуецца вобраз знешняга ворага. Такім ворагам ледзь было ня стала Расея, але ў апошні момант улады перадумалі і абвінавацілі Польшчу з Германіяй, вырашыўшы, што гэта больш звыклы і зразумелы абывацелю вобраз. Я думаю, што ціск на грамадзянскую супольнасць з боку беларускіх уладаў будзе ўзмацняцца.

***У лютым Вас папярэдзілі за дзейнасць ад імя незарэгістраванай арганізацыі. Якія наступствы Вы чакаеце?***

Так, 16-га лютага мяне выклікалі ў Генеральную пракуратуру РБ, дзе ўручылі афіцыйнае папярэджанне па крымінальным артыкуле 193.1 КК РБ за дзейнасць ад імя незарэгістраванага грамадскага аб'яднання “Праваабарончы цэнтр “Вясна”. Тым ня менш, яшчэ ў 2009 годзе, пасля таго як нам тройчы адмовілі ў рэгістрацыі і магчымасці атрымання легальнага статусу, мы заяўлялі, што будзем і далей працягваць праваабарончую працу. 17 лютага ў адказ на папярэджанне Генпракуратуры Рада «Вясны» прыняла заяву, што мы расцэньваем гэта як спробу запалохвання актывістаў арганізацыі і ўсяго праваабарончага руху Беларусі. Мы лічым сваю праваабарончую дзейнасць абсалютна законнай, запатрабаванай беларускай грамадскасцю і не спынім яе, нягледзячы на відавочную пагрозу з боку ўладаў.

*Яніна Стэфанчук*

Праваабарончы веснік. Магілёўскі праваабарончы інфармацыйны бюлетэнь. Распаўсюджваецца бясплатна. Наклад: 299 ас.